ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Дзедзіч

Зберагчы і Павялічыць

№4 (82) • КРАСАВІК 2013

Увага!

***Вясна нарэшце прыйшла - самы час сядаць на ровар ды удзельнічаць у новых акцыях "За Вела-Брэст"!***

# ЧАРНОБЫЛЬ. МЫ НЕ ЗАБЫЛІ



**Фота: Анатоль Кляшчук. Фотаальбом «Зона журбы. Чарнобыльскі цыкл - дзеці,1986-1996»**

**Радзіма! Беларусь! Наша Бацькаўшына - маці!**

**Які цяжкі лёс выпаў на Тваю долю! Колькі Табе давялося выпакутаваць, змагаючыся за шчасце сваіх дзяцей. Колькі раз ворагі прыходзілі да Цябе, каб забіць Тваіх сыноў, а для сваіх гарэмаў набыць новую прыгожую зорку. Але Ты хавала нас у сваіх густых пушчах, паіла крышталынай вадой сваіх рэк, а ворагі нашы гінулі ў Тваіх балотах, замярзалі ад холаду Тваіх «прывітанняў».**

Мы, Твае дзеці-небаракі, выходзілі з лясоў і зноў прастадушна пускалі на Твае прасторы чужынцаў. Ты даравала нам за нашу дзіцячую легкадумнасць і нявопытнасць, бо Ты – нашая Маці.

27 гадоў таму да нас зноў прыйшла бяда. Але ад гэтага ворага не схавацца ў лесе, і не ўтапіць яго ў балоце. Вораг гэты – самы моцны, самы страшэнны, самы непераможны.

І прыйшоў ён надоўга, і пасяліўся ва ўсіх Тваіх куточках, і ад гэтага часу дзеці твае будуць хворыя, а зямля Твая, і рэкі, і азёры - атручанымі. Даруй нам, Маці, калі зможаш, даруй апошні раз, бо мы, Твае неразумныя дзеці, нарэшце зразумелі сваю галоўную памылку – былі мы занадта даверлівымі.

Нам казалі: «Мы навучым вас, беларусаў, як трэба жыць, бо мы лепш ведаем». Мы верылі. Нам казалі: «Мы – вашы старэйшыя браты. Будзем жыць разам». Мы зноў верылі і гублялі свой дом.

Зразумелі мы цяпер, што калі б былі гаспадарамі ў сваім доме, то ніколі б расейскія самалёты не расстрэльвалі радыёактыўныя аблокі, што ляцелі на Маскву, над Тваім Магілёвам, ніколі не выводзілі б мы сваіх дзяцей на Першамай у тую чорную вясну.

Зразумелі мы і тое, што ў нашай сям'і таксама не без вырадкаў, - тых, хто замоўчваў праўду пра маштабы трагедыі, тых, хто зараз кажа, што не бачыць ніякай радыяцыі і прымушае маладых спецыялістаў губіць здароўе ў Чарнобыльскай зоне. Яны, гэтыя вырадкі, адракліся ад Цябе, Маці, прадаліся ворагам Тваім і хочуць вынішчыць дашчэнту род Твой.

Калі зможаш Ты дараваць нам, калі выратуеш ад гэтай бяды, абяцаем, што больш не прыйдзецца Табе клапаціцца за нас. Мы ўжо выраслі, і за гэта Табе вялікі дзякуй.

Цяпер мы будзем даглядаць Твае лясы і палі, упрыгожваць Тваю зямлю. Цяпер мы самі будзем сачыць за сваім домам і ратаваць Цябе ад ворагаў.

Будзем нараджаць і гадаваць сваіх дзяцей, каб заўсёды гучала на нашых родных прасторах Твая мілагучная мова, каб заўсёды была Ты шчасліваю, наша Радзіма, каб не зведала ўжо ніколі такога гора, як у 1986 годзе, і каб заўсёды было каму казаць: «Жыве Беларусь!».

**Дзедзіч**

## У НУМАРЫ:

## АДНЫМ РАДКОМ

### ПРАКТИЧЕСКИЙ ТРЕНИНГ «ГРАЖДАНИН И ПРАВОПОРЯДОК»

**АРР "Дзедзич" и РОО «Правовая инициатива» приглашают молодёжь принять участие в бесплатном практическом тренинге «Гражданин и правопорядок», который состоится в Бресте 28-го апреля.**

Участники семинара получат знания и сформируют умения, необходимые для защиты своих прав при взаимоотношениях с правоохранительными органами.

Ключевым моментом семинара станут ролевые игры "Проведение допроса свидетеля", "Проведение допроса задержанного".

Что делать, если вас задержали на улице? Как себя вести при личном досмотре, допросе, обыске? Что важно знать при составлении протокола в милиции? На эти вопросы участники смогут получить ответы во время семинара.

Основными задачами предлагаемого семинара являются:

- Передача слушателям минимально необходимых знаний по вопросам административного и уголовного права;
- Ознакомление их с основами юридической психологии при контактах с правоохранительными органами;
- Ознакомление участников с правилами поведения в специфических условиях (задержание, личный досмотр, опрос и т.п.) в случаях вынужденных контактов с представителями силовых структур.

**ГРАФИК СЕМИНАРА:**

Суббота, 28 апреля, с 11-00 до 18-00.
Обед: 14.00-15.00

Участие в семинаре бесплатное. Для участников будут организованы обед и кофе-паузы.

Для участия необходимо не только отметиться на странице встречи Вконтакте https://vk.com/gip_2013, но и ОБЯЗАТЕЛЬНО ОТПРАВИТЬ на адрес dzedzich@tut.by ЗАЯВКУ на участие:

1. ФИО.
2. Возраст.
3. Место работы/учёбы.
4. Телефон, мэйл, скайп (если есть).

**dzedzich.org**



# ЗАМЕЖНЫЯ СТУДЭНТЫ

## ЗАСТАНУЦЦА Ў БЕЛАРУСІ

**Праект рэформы міграцыйнага заканадаўства прадугледжвае пэўныя змены, якія тычацца туркменскіх і іншых замежных студэнтаў. Зараз застацца ў Беларусі пасля заканчэння ўніверсітэту будзе нашмат прасцей.**




Замежнікі, якія скончылі або яшчэ навучаюцца ў беларускіх ВНУ, і якія жадаюць застацца ў краіне, каб працаваць па спецыяльнасці, будуць вызваленыя ад неабходнасці афармляць спецыяльныя дазволы на права працаваць у Беларусі.

Таксама замежнікам, паводле новага закону, нават аплоцяць квіткі, калі яны вырашаць пераехаць у Беларусь назаўжды. Новаўвядзенне тычыцца толькі кваліфікаваных працоўных.

Па словах кіраўніка міграцыйных органаў беларускага МУС Сяргея Герасімава, такі законапраект ужо ўнесены ў парламент і яго плануецца разгледзець у першым чытанні на вясновай сесіі. Аб гэтым піша БелТА.

Неабходнасць рэформы міграцыйнага заканадаўства чыноўнікі тлумачаць скарачэннем насельніцтва. За апошнія тры гады беларусаў стала яшчэ на 50 тыс. меней. Хаця пры гэтым многія з іх працуюць і жывуць за мяжой. Гэтак, паводле даследавання Generation.by, права жыць у краінах ЕС маюць болей за 110 тысячаў грамадзян Беларусі. У Расіі — мінімум 300 тысячаў беларускіх працоўных мігрантаў.

Аб тым, як прыцягнуць кваліфікаваных супрацоўнікаў з-за мяжы, цяпер задумваюцца многія дзяржавы. Некаторыя з іх, як Германія, самі нацэліліся на адукаваных беларусаў, таксама спрасціўшы ім у мінулым годзе працэдуру для атрымання дазволу на працу. У ЗША да рэформы міграцыйнага заканадаўства вырашыў далучыцца нават заснавальнік Facebook Марк Цукерберг.

Калі праект закону аб міграцыі будзе прыняты ў Беларусі, скарыстацца ім змогуць найперш шматлікія кітайскія і туркменскія студэнты, якія дамінуюць у беларускіх універсітэтах. Толькі ў Менску ў 2012 годзе навучаліся болей за 2 тысячаў туркменскіх студэнтаў. Агулам у краіне — болей за 5 тыс. Усе яны, калі захочуць, змогуць застацца працаваць у Беларусі.

На гэтым тыдні таксама стала вядома, што ў адным з менскіх універсітэтаў адкрыецца цэнтр вывучэння персідскай мовы і іранскай культуры, а беларускае радыё будзе трансляваць перадачы па-кітайску.

**Паводле: generation.by**

# ЗАХОДНІ ВЕКТАР ПЕРАМАГАЕ

## ГЕАПАЛІТЫЧНЫ ВЫБАР БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

**Чаму ў Еўропу хоча пераважна моладзь? Як беларусы выбіраюць саюзнікаў, пры чым тут размеркаванне і лібералізм? Адказы на гэтыя пытанні прапануе даследванне геапалітычнай арыентацыі беларусаў ад Беларускага інстытута стратэгічных даследванняў (BISS).**

**АМБІЦЫЙНЫЯ АБІРАЮЦЬ ЕЎРАСАЮЗ**

Амбіцыйны маладзён з вышэйшай адукацыяй, хутчэй за ўсё з вялікага гораду, які лічыць сябе здольным знайсці працу ва ўмовах канкурэнцыі і атрымаць высокі заробак – такі партрэт прыхільніка інтэграцыі Беларусі з Еўрасаюзам. 42% тых, хто хацеў бы гэтага – моладзь.

Алена Арцёменка, эксперт BISS, бачыць для гэтага наступныя прычыны: *«У іх няма настальгіі па Савецкім Саюзе, яны вольныя ад матэрыяльных абавязкаў і часцей за ўсё не настолькі ўцягнутыя ў матэрыяльнае забеспячэнне сябе і сваіх сем'яў, для іх страта кантролю на дзяржуласнасцю, прыватызацыяй не такая хваравітая. Праз адсутнасць бар'ераў каштоўнасці Еўрасаюза падтрымлівае пераважна моладзь».*

Нягледзячы на гэта, эксперты асабліва падкрэсліваюць, што інтэграцыя з Еўрасаюзам – не асноўнае, чаго хоча моладзь. Агульная ж колькасць прыхільнікаў уваходжання ў Еўрасаюз у 2013 ў параўнанні з 2010 не змянілася – іх 17%

**ДЗЕ БЕЛАРУСЫ БАЧАЦЬ СВАЮ БУДУЧЫНЮ**

Яшчэ траціна беларускага насельніцтва хацела б бачыць сваю краіну цалкам незалежнай і па-за межамі якіх бы то ні было саюзаў. 43,4% – у саюзе толькі з Расіяй альбо з Расіяй і ЕС аднačасова. Але пры ўсім тым, большасць апошняй групы на рэферэндуме прагаласавалі б за ўваходжанне ў Еўрасаюз.

**ДАЕШ ЛІБЕРАЛІЗМ**

Нават у не такой вялікай Беларусі геаграфічнае размяшчэнне ўплывае на меркаванні людзей: больш у Еўрасаюз хочуць жыхары Гродзенскай вобласці. А жыхары Віцебскай схільныя да саюзу з Расіяй. Гэта адлюстроўваецца і ў тым, куды ездзяць жыхары абласцей на заробкі: хто ў польскі Беласток, а хто ў Маскву, Бранск, Смаленск.

По сваім жа каштоўнасным кшталце прыхільнікі ЕС і ЕС+РФ падобныя між сабой ліберальнасцю поглядаў. У той час як тыя, хто за цалкам незалежную Беларусі альбо за саюз толькі з Расіяй – патэрналісты – больш схільныя да моцнай дзяржавы.

Для моладзі бліжэй ліберальныя каштоўнасці, а вось старэйшае пакаленне не такое ліберальнае: за варыянт жыцця ў незалежнай Беларусі альбо ў саюзе з Расіяй выказваліся пераважна людзі старэй за 45 год.

**НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ АЛЬБО КАШАЛЁК**

Адметна, што беларусы шукаюць фінансавых выгодаў не менш за палякаў, толькі здабываюць іх па-іншаму.

Эканамічная бяспека пры любой інтэграцыі – галоўнае (так лічаць 72% грамадзянаў). Для 70% грамадзянаў Беларусі ўтварэнне адзінай дзяржавы з Расіяй прымальнае пры ўмове той самай бяспекі.

Эксперт BISS Дзяніс Мельянцоў зазначае: *«З 2010 году бачны значны рост – тады гэтая лічба складала 55%. Крызіс 2011 года скарэктаваў адносіны беларусаў да выбару саюзнікаў».*

Каштоўнасны бок уступлення Беларусі у Еўрасаюз цікавіць няшмат людзей (7,3% насельніцтва). Падобна, шмат хто з беларусаў з задавальненнем бачыў бы не толькі крэдыты-ільготы-міжнародную супрацу ў сваёй краіне, але і з'ездзіў бы за мяжу, каб зарабіць грошай.

Пытанне ж эканамічных санкцыяў незнаёмае палове насельніцтва краіны, як і праграмы "Усходняе партнёрства" і "Дыялог пра мадэрнізацыю Беларусі".

То бок, нягледзячы на высокую цікавасць да Еўрасаюзу, беларусы па-ранейшаму глядзяць на яго прагматычна, а ведаюць вельмі мала.

Па словах даследчыкаў, ***«агульныя арыентацыі насельніцтва шмат у чым будуць залежаць ад таго, якія настроі будуць сфармаваны ў будучай моладзі».***

Атрымліваецца, поле для асветніцкай дзейнасці беларускіх грамадскіх арганізацый і ініцыятыў літаральна неаранае.

**ДАВЕДКА АМП**

**Усходняе партнёрства** – праект Еўрапейскага Саюза, скіраваны на паглыбленне адносінаў з 6 краінамі былога СССР: Украінай, Малдовай, Азербайджанам, Арменіяй, Грузіяй і Беларуссю.

Праект прадугледжвае падпісанне з гэтымі дзяржавамі на працягу наступных некалькіх гадоў дамоваў пра асацыяцыю, стварэнне зоны свабоднага гандлю і паступовае фармаванне адзінага рынку па прыкладзе таго, што ўжо існуе ў ЕС з такімі краінамі, як Нарвегія, Ісландыя і Ліхтэнштэйн.

**Еўрапейскі дыялог па мадэрнізацыі** - абмен поглядамі і ідэямі паміж ЕС і прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі па пытаннях рэформ, неабходных для мадэрнізацыі Беларусі, і пра адпаведны патэнцыял развіцця адносінаў з ЕС, пра звязаную з гэтым магчымую падтрымку ЕС.

**ampby.org**



## АДНЫМ РАДКОМ

### ДРАНІК-ПАЦІ Ў БРГУ



**4 красавіка на філалагічным факультэце БрДУ ім. А.С.Пушкіна студэнты універсітэта ладзілі беларускую этна-вечарыну.**

Героем сустрэчы стала традыцыйная беларуская страва – дранікі. Арганізатарамі вечара выступілі самі студэнты універсітэта, а ідэя вечарыны належыць аднаму са студэнтаў - Дзянісу Трацюку, - які разам з сябрамі і прыдумаў забаўляльную праграму, конкурс на лепшыя дранікі і віктарыну.

Удзельнікі таньчылі народныя беларускія танцы: "Лявоніха", "Войцех" і іншыя. Вывучылі правілы жартоўных беларускіх гульняў "Юрачка", "Баяры і цароўны", " Мосцік".

У конкурсе на лепшыя дранікі прымалі ўдзел усе тыя, хто спёк іх дома і прынес з сабою. Чатыры чалавекі не паляніліся папрацаваць, за што атрымалі каштоўныя падарункі.

Паўдзельнічаць у імпрэзе сабраліся не толькі студэнты, але і выкладчыкі. Усяго сабралося больш за пяцьдзесят чалавек.

Вечар атрымаўся насычаным і вясёлым. Першы блін не пайшоў камяком!

**dzedzich.org**

### У ПІНСКІХ ПЕДАГОГАЎ ЗАБРАЛІ ГРОШЫ, КАБ ЗБУДАВАЦЬ ЦАРКВУ



**Так званая «дабрачынная дапамога» пойдзе на заканчэнне будаўніцтва Царквы Раства Прасвятой Багародзіцы.**

Ва ўсіх настаўнікаў пінскіх школаў, садкоў ды іншых навучальных установаў адлічылі з заробкаў па 60 тысяч рублёў, з малааплочвальных работнікаў — па 30 тысяч, а з кіраўнікоў — па 100 тысяч. Адпаведнае рашэнне прыняў Пінскі гарвыканкам, паведамляе тэлеканал «Белсат».

Работнікаў папярэдзілі пра адлічэнне грошай за тыдзень да атрымання заробку.

Кіраўніцтва аддзела адукацыі Пінскага гарвыканкаму адмаўляецца каментаваць гэтую сітуацыю.

**Паводле: euroradio.by**

# РАЗМЕРКАВАННЕ: ШТО ТРЭБА ВЕДАЦЬ СТУДЭНТУ?

**Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, дзе дагэтуль існуе прымусовае працаўладкаванне маладых спецыялістаў. Праваабаронцы называюць размеркаванне парушэннем правоў чалавека, дзяржава – клопатам і сацыяльнымі гарантыямі для грамадзян.**




### ЗАКАНАДАЎЧАЕ АБГРУНТАВАННЕ РАЗМЕРКАВАННЯ

Паводле Канстытуцыі, грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека. Гэта значыць, права на выбар прафесіі, роду заняткаў і работы ў адпаведнасці з пакліканнем, здольнасцямі, адукацыяй, прафесійнай падрыхтоўкай і з улікам грамадскіх патрэбаў, а таксама на здаровыя і бяспечныя ўмовы працы (арт.41). Апроч таго, гарантуюцца даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя даступная для ўсіх у адпаведнасці са здольнасцямі кожнага. Кожны можа на конкурснай аснове бясплатна атрымаць адпаведную адукацыю ў дзяржаўных навучальных установах (арт. 49).

Па меркаванні юрыста і эксперта працоўнай групы еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю Алега Граблеўскага, размеркаванне па сутнасці з'яўляецца прымусовым працаўладкаваннем, супярэчыць нацыянальным і міжнародным нормам права. *"У гэтым сэнсе цікавым з'яўляецца рашэнне Канстытуцыйнага суда за 2006 год, у якім адзначаецца, што мэта размеркавання – паляпшэнне кадравага забеспячэння, размеркаванне з'яўляецца вымушанай мерай з боку дзяржавы, што выклікана цяжкасцямі пераходнага перыяду"*.

Дзяржава, у сваю чаргу, настойвае, што размеркаванне з'яўляецца мерай сацыяльнай падтрымкі выпускнікоў ВНУ, ССНУ. Заканадаўча замацаваныя пэўныя ільготы для маладых спецыялістаў: выплата "пад'ёмных", забарона на ўсталяванне выпрабавальнага тэрміну. Працадаўцы адзначаюць, што звольніць размеркаванага спецыяліста вельмі складана.

У Еўрапейскім саюзе пытанне сацыяльных гарантыяў для маладых спецыялістаў вырашана інакш. У Вялікабрытаніі распрацавана спецыяльная праграма «Новы курс для маладых людзей». Яна ўключае ў сябе кансультацыі і рэкамендацыі па выбары роду дзейнасці з улікам індывідуальных асаблівасцяў і патрэбаў. У Швецыі праблема працаўладкавання і прафесійнай перападрыхтоўкі вырашаецца з улікам асаблівасцяў мясцовых рынкаў працы і кадравых запытаў бізнесу. У Германіі існуе адразу некалькі спосабаў барацьбы з беспрацоўнымі маладымі спецыялістамі. Адзін з такіх спосабаў ідзе ад гістарычнай традыцыі цэхавых карпарацый.

У Расіі і Казахстане на заканадаўчым узроўні плануюць замацаваць прадастаўленне квотаў для маладых спецыялістаў, а таксама штрафы для працадаўцаў, якія будуць парушаць закон.

### ЯКІМ ЧЫНАМ АДБЫВАЕЦЦА РАЗМЕРКАВАННЕ?

Размеркаванне маладых спецыялістаў адбываецца ў некалькі этапаў. Спачатку выпускнікі праходзяць праз так званае "папярэдняе размеркаванне", дзе ўпершыню знаёмяцца са спісам вакансіяў, якія паступілі ва ўніверсітэт. Лічыцца, што найбольш паспяховыя студэнты маюць больш выбару, бо іх кандыдатуру камісія разглядае ў ліку першых. Але на практыцы часта выходзіць, што студэнты, якія вучыліся найгорш атрымліваюць так званы "свабодны дыплом", бо пакуль чарга даходзіць да іх, прапановы ў спісе вакансіяў ужо сканчваюцца. Выпускнік мае права таксама самастойна знайсці працоўнае месца для размеркавання, прынесці заяўку ад працадаўцы. Усе дакументы разглядае адмысловая камісія, якая можа як ухваліць такую заяўку, так і адхіліць яе.

Сакратар камісіі вядзе пратакол паседжання. Абранае працоўнае месца заносіцца ў графу насупраць прозвішча выпускніка. Часам сакратар камісіі уносіць запісы простым алоўкам, а не ручкай. Падпісваючы такі пратакол, студэнт павінен разумець, што на месцы ранейшага запісу простым алоўкам ужо пасля падпісання можа з'явіцца зусім іншы запіс аб накіраванні на працу. Даказаць у такім выпадку, што вы пагаджаліся на іншае месца працаўладкавання, будзе вельмі складана.

Канчатковае рашэнне аб працаўладкаванні афармляецца на выніковым размеркаванні. Часам на гэтым паседжанні ў новы пратакол проста дублююць інфармацыю з папярэдняга размеркавання, калі выпускнік і камісія не змянілі рашэння. Аднак вынікі папярэдняга размеркавання не гарантуюць, што камісія не зменіць рашэнне і замест абяцанага працаўладкавання ў Мінску вас раптам не вырашаць накіраваць у Лепель.

***Існуюць катэгорыі грамадзян, на якіх размеркаванне не распаўсюджваецца*** (п.2 арт. 83 Кодэкса Рэспублікі Беларусь Аб адукацыі), а менавіта:

1) выпускнікі, уключаныя Міністэрствам спорту і турызму у склад нацыянальных, зборных каманд Рэспублікі Беларусь;

2) выпускнікі прафесійна-тэхнічных вучэльняў і іх філіялаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі папраўчых установ крымінальна-выканаўчай сістэмы МУС, рэспубліканскіх унітарных вытворчых прадпрыемстваў Дэпартамента выканання пакаранняў, лячэбна-працоўных прафілакторыяў;

3) выпускнікі спецыяльных вучэбна-выхаваўчых установ і спецыяльных лячэбна-выхаваўчых установ.

Таксама ***існуюць катэгорыі грамадзян, для іх размеркаванне адбываецца з пэўнымі выключэннямі*** (п.5 арт. 83 Кодэкса), а менавіта:

1) дзецям-сіротам і дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў;

2) дзяцям-інвалідам ва ўзросце да 18 гадоў, інвалідам I або II групы;

3) асобам, якія маюць аднаго з бацькоў, або мужа (жонку) інваліда I ці II групы, або дзіця-інваліда;

4) асобам, якія маюць медыцынскія супрацьпаказанні да працы па атрыманай спецыяльнасці;

5) цяжарным жанчынам, маці (бацьку), якія маюць дзіця ва ўзросце да 3 год на дату прыняцця рашэння аб размеркаванні;

6) мужу (жонцы) асобы, выбранай на выбарную пасаду ў дзяржаўныя органы, альбо накіраванай на працу ў дыпламатычныя прадстаўніцтвы або консульскія ўстановы Рэспублікі Беларусь, альбо з ліку ваеннаслужачых Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь;

7) мужу (жонцы), жонка (муж) якога працуе і стала пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

8) мужу і жонцы, якім месца працы шляхам размеркавання павінна быць прадастаўлена адначасова, месца працы прадастаўляецца па іх жаданні і пры наяўнасці магчымасці ў адным населеным пункце.

Канчатковае накіраванне на працу выпускнік атрымлівае пасля здачы дзяржаўных іспытаў, абароны дыплома. Звычайна гэта супадае з выдачай дыплома аб атрыманні вышэйшай адукацыі.

Наймальнік абавязаны накіраваць у навучальную ўстанову паведамленне пра тое, што супрацоўнік своечасова прыбыў на працу. Калі спецыяліст не з'явіўся, наймальнік таксама інфармуе пра гэта ўніверсітэт ці каледж. У такім выпадку выпускнік павінен будзе кампенсаваць сродкі, затрачаныя дзяржавай на ягонае навучанне. Парадак спагнання грашовай сумы замацаваны арт.88 Кодэкса. Там жа ўтрымліваецца пералік асобаў і выпадкі, пры якіх яны вызваляюцца ад абавязковай выплаты сродкаў, затрачаных на навучанне.

У 2012 годзе Канстытуцыйны суд прыняў рашэнне, паводле якога ад кампенсацыі бюджэтных сродкаў павінны быць вызваленыя таксама грамадзяне, якія замест праходжання размеркавання добраахвотна паступілі на вайсковую службу па кантракце.

Ужо падчас праходжання размеркавання малады спецыяліст можа звярнуцца ва ўніверсітэт з просьбай пераразмеркаваць яго (арт. 85 Кодэкса). Напрыклад, выпуснік ажаніўся і цяпер хоча працаваць па месцу жыхарства (або працы) сваёй жонкі. У такім выпадку ва ўніверсітэце ізноў склікаецца камісія, якая вырашае пытанне пераразмеркавання.

### ЦІ МОЖА БЫЦЬ АДМЕНЕНАЕ РАЗМЕРКАВАННЕ?

З 2003 года наша краіна імкнецца далучыцца да Балонскага працэсу. Заяўку ад Беларусі павінны былі разгледзець міністры адукацыі краін-удзельніц Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі на саміце ў Бухарэсце 26-27 красавіка 2012 года. Аднак «беларускае пытанне» было знятае з парадку дня да пачатку саміту і адкладзенае да 2015 года. Падставай для такога рашэння сталі рэкамендацыі, зробленыя працоўнай групай Балонскага працэсу ў студзені 2012 года.

Размеркаванне з'яўляецца адным са стрымліваючых фактараў далучэння Беларусі да Балонскага працэсу. Па меркаванні незалежных экспертаў, стаць паўнаварнасным удзельнікам працэсу, маючы прымусовае працаўладкаванне разам з іншымі праблемамі нашай сістэмы адукацыі, будзе надзвычай складана.

Аднак яскравых прыкладаў, якія б сведчылі пра наяўнасць палітычнай волі на адмену размеркавання ва ўладзе, пакуль няма. Хутчэй наадварот. Напрыклад, віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік, які адказны за пытанні адукацыі, неаднаразова адзначаў, што для выпускнікоў медыцынскіх ВНУ тэрмін размеркавання павінен быць працягнуты да 5 год (зараз – 3 гады), для выпускнікоў астатніх ВНУ – да 3 год (зараз – 2 гады). Апроч таго, па меркаванні віцэ-прэм'ера, размеркаванне павінна адбывацца за год да сканчэння ўніверсітэта, то бок на 4 курсе.

**Паводле: spring96.org**

# АДКРЫЦЦЁ ВЕЛАСЕЗОНУ

## РАЗАМ АДЗНАЧЫЛІ БАЙКЕРЫ І РАВАРЫСТЫ

**Паводле звестак ДАІ, у арганізаванай калоне рухаліся каля 200 матацыклаў і больш за 300 ровараў. Традыцыйна да брэсцкіх байкераў далучыліся клубы з Польшчы і Украіны.**



Адкрыццё сезону супала і з сёлетнім пачаткам дзейнасці грамадскай кампаніі «За Вела-Брэст!». Яе каардынатар Уладзімір Красько ў каментары Еўрарадыё паведаміў, што адна з асноўных задачаў — вырашэнне пытання аб перасячэнні беларуска-польскай мяжы на ровары:

«Досвед мінулага году паказаў, што гэтае перасоўванне магчымае і ўся інфраструктура для бяспечнага руху на ровары існуе. А зараз проста патрэбна добрая воля тых чыноўнікаў, якія адказваюць за памежны пераход. Дазвол на пераезд роварам у Тэрэспаль збольшага залежыць ад польскага боку».

Нагадаем, роварны эксперымент на беларуска-польскаймяжы скончыўся частковым поспехам актывістаў «За Вела-Брэст!». У кастрычніку мінулага года яны трапілі на двух колах праз «Варшаўскі мост» у Тэрэспаль.

Цяжкасцяў з беларускім бокам не ўзнікла, аднак польскія памежнікі паведамілі, што дазвол на пераезд аднаразовы, бо пункт пропуску нібыта не абсталяваны для роварнага руху.

**Паводле: euroradio.fm**

# ПУТЕШЕСТВИЕ НА ВЕЛОСИПЕДЕ

**Велотуризм - один из видов альтернативного туризма. Как с помощью велосипеда сэкономить деньги на экскурсиях и проезде и при этом выполнить план туриста?**

**ИЗ МОДЫ - В ТУРИЗМ**

Велосипед в Беларуси - отнюдь не новое явление. В деревнях и небольших городах, он, как и 50 лет назад, остается незаменимым видом транспорта. Под влиянием моды на здоровый образ жизни велосипеды все чаще появляются и в семьях жителей больших городов. Конечно, Минску пока далеко до Амстердама, мэр которого, как и большинство жителей голландской столицы, ездит на работу на велосипеде. Но с появлением велодорожки в столице Беларуси можно говорить о «признании» велосипеда на уровне городской власти. Отсюда - из моды на велосипеды - и берет начало велотуризм.

**ИЩЕМ МАРШРУТ**

Начинается все с выбора маршрута. Благо в Беларуси мест, которыми можно полюбоваться, хватает. Самым полным списком культурных ценностей сегодня могут похвастать интернет-порталы globus.tut.by и radzima.org. На первом портале по областям, а на втором и по районам размещается информация с фото обо всех объектах, которые представляют историческую ценность. Причем на Глобусе Беларуси есть такая удобная функция, как рейтинг. Можно ориентироваться на один-два объекта с высоким рейтингом и, исходя из этого, прокладывать маршрут к ним, проезжая «менее важные» места.

**«ВЕЛОЭЛЕКТРИЧКА»**

Вторая составляющая похода - как добираться до места. Чтобы не ограничиваться пригородами родного города, можно выбрать на карте какую-либо достопримечательность, которая расположена не так далеко от станции пригородного поезда. Если с велосипеда снять переднее колесо и положить части велосипеда в пакет или чехол, платить за него не надо - как ручная кладь он провозится на полке для багажа. Если же велосипед не разбирать, то за его перевозку надо заплатить полный билет.

Универсальной протяженности маршрута не существует. Для начала, если опыта езды на дальние дистанции не было, можно ограничиться 20-30 км. В среднем же 50 км на день - расстояние, при котором можно не спеша ехать и много ходить и фотографировать. Рассчитать километраж можно в интернете. На том же Глобусе Беларуси есть ссылка на сайт maps.yandex.ru, где можно измерять расстояния по карте.

**Паводле: aif.by**

## УВАГА! КОНКУРС!

# ОБМЕНЯЙ ВЕЛО-ФОТО НА ЦЕННЫЙ ПРИЗ!

**В рамках кампании «За вело-Брест!» проходит фотоконкурс, результатом которого будет настенный календарь на 2013-2014гг. с тематическими фотографиями на каждый месяц.**

Работа над созданием единственного в своём роде брестского вело-календаря не остановилась, несмотря на суровую зиму и не очень весенний март.

Сейчас же – самое время пересаживаться с общественного транспорта на свой личный двухколёсный и, конечно, фотографироваться для новой страницы календаря.

Автор фотографии, отобранной для календаря по результатам голосования на сайте, получает ПРИЗ: флеш-накопитель 16 Гб. Всего в календаре будет размещено 12 фотографий).

Авторы всех фотографий, присланных на конкурс, получат в подарок календарь и фирменную продукцию кампании «За вело-Брест!»: значки, флажки, наклейки и т.д. (Всего будет награждено 60 конкурсантов).

На конкурс принимаются фотографии велосипедиста (велосипедистов) на фоне узнаваемых мест города Бреста (известные улицы, парки, здания и т.д.). Фото должно соответствовать указанному месяцу.

Конкурсная работа должна состоять из фотографии и описания места, где был сделан снимок (приветствуется небольшой рассказ об истории фотографии).

Фотография должна быть сделана в период с 01.04.2013 по 30.04.2013.

Фотографии должны быть высокого качества не менее (хотя бы по одной стороне) следующих размеров: ширина 1600 px, высота 1200 px.

Работа должна быть авторской.

Сроки проведения конкурса «ВЕЛО-АПРЕЛЬ»: с 01.04.2013 по 30.04.2013.

Работы принимаются до 23.59 30.04.2013 года на адрес: vybor@tut.by с отметкой «на фотоконкурс». В письме необходимо указать фамилию, имя конкурсанта, контакты: телефон, мейл.

Сроки проведения конкурса по созданию велокалендаря: с 01.07.2012 по 30.06.2013.

**dzedzich.org**



**Победитель конкурса в марте**

# “ХОЧАЦЦА БОЛЬШ ПАВЕТРА”

**Юры Стыльскі, лідэр «Дай Дарогу!», распавёў у вялікім інтэрв'ю пра працу на мясакамбінаце, братоў-скрыпачоў і пра дзяцінства «ў трушчобных умовах» ды выказаў гатоўнасць сталець разам са сваімі слухачамі.**




На сёння «Дай дарогу!» — адна з самых запатрабаваных беларускіх камандаў, канцэрты якой нязменна збіраюць аншлагі. Музыкі толькі што прадставілі ў сеціве шыкоўны відэапраект «Велаакустыка». Яны сыгралі свае лепшыя песні ў ангары па рамонце ровараў і знялі гэту дзею на кінакамэры 4K. Нягледзячы на безумоўную папулярнасць, што на яго абрынулася, лідэр гурта Юра Стыльскі застаецца адкрытым і шчырым. Ён такі і на сцэне, і ў жыцці.

***- У тваіх песнях багата згадак пра несалодкія працоўныя будні. Табе сапраўды даводзілася выходзіць на працу па суботах ды грузіць «ванючыя сардзіны»?***

- Сапраўды. Гэта цяпер можа падацца, што я такі акультураны і гламурны. Ніфіга, я прахаваў столькі гаўна, што ў пэўны час ледзве ў ім не захлынуўся. У мяне немалы стаж працы, павер ты мне. Куды толькі не заносіла. На мясакамбінаце працаваў, напрыклад, на будоўлі, на лясах, на мэблевай фірме. Дык аднойчы сказалі: звальняйся па ўласным жаданні. На год звычайна два адгулы даюць — на пахаванне ці на вяселле. А я ўжо 15 набраў, на канцэртах жа мушу быць па-любому, таму і задзёўб усіх. Вось звольніўся і больш нікуды не ўладкоўваўся. Спачатку можа было і цяжка, а цяпер ладзім канцэрты, людзі на іх прыходзяць, дзякуй богу, таму ўсё атрымліваецца.

***- Ты патрабавальны чалавек у побыце? Хапае табе таго, што маеш з музыкі?***

- Не адным гуртом кармлюся, пішу яшчэ музыку да рэкламы. Мне не трэба шмат, я не абжора, апрануцца магу ў сэкандзе. Так што нават прыкольна, так па мінімуме выдаткоўваць, а калі нешта моцна спадабалася дык магу набыць і зусім пра гэта не шкадаваць, нават калі пасля пакупкі ў кішэні нічога не застаецца.

***- Сярод тваіх родных і блізкіх ёсць класічныя музыканты, а ты пайшоў у панк-рок. Чаму?***

- Класіку я магу пісаць, адчуваю музыку. Мая родная сястра выкладае піяніна, а два стрыечныя браты — скрыпачы. Маёй сястры муж — заслужаны артыст Беларусі. А я вось не любіў вучыцца. Мне не падабалася школа, прызабіў на вучобу, хаця цяпер пра гэта шкадую. З дакладнымі навукамі — наогул бяда, у лічбах не рублю, спытаеш мяне колькі будзе 7 на 6, і я табе не адкажу. У літаратуры пераборлівы, калі тры старонкі не зачэпяць — закрываю адразу, не магу чытаць. Па ракенроле папёрла, бо, відаць, вырас у трушчобных умовах. Я ж хапануў яшчэ Савецкі Саюз, памятаю, як мама з татам ругаліся, напруга была ў бытавусе — чэргі па каўбасу ды яшчэ тата быў аматар выпіць трошкі. У нас першая песня так і звалася — «Бытавуха». Яна пра тое, што я чуў на свае ўласныя вушы.

***- Калі ты адчуў, што з музыкай у цябе складаецца ўсур'ёз?***

- Яшчэ са школьных часоў, бо мяне пёрла ад гэтага. І мусіць, жаданне граць было настолькі моцным, што з дапамогай яго былі пераадолены ўсялякія перашкоды, і пайшла сур'ёзная справа. Я перакрыў іншыя каналы і вырашыў, што мне на астатняе пофіг, і я буду займацца гэтым. Відаць, толькі такое імкненне здольнае прывесці да таго, каб чалавек знайшоў сябе.

***- Калі ты пішаш песню, ты ўяўляеш, для каго гэта робіш? Патэнцыйнага адрасата свайго?***

- А яно ўсяляк бывае. Часам бывае так смешна, што бяру проста з жыцця ды запісваю, а часам перамешваю назіранні з фантастыкай, каб выйшла смешна… Ці трагічна. Здараецца, што песня пішацца доўга — тыднямі і месяцамі, пакуль не народзіцца які цікавы радок. Бо як так магчыма, каб песня была пустая? Во раней якія песні людзі пісалі! «Помоги мне» з «Бриллиантовой руки» так мяне заўжды кранае, там кожны радок важкі. Ці Высоцкі… А для каго менавіта пішу, я зусім не думаю. Выходзіць часам зусім ужо па-дзіцячаму, а парой вельмі нават па-даросламу. Ці мне падаецца, што нясу занадта ўжо разумняк, нібы мудрэц які 70-гадовы, тады звальняю такую ідэю. Я не настолькі мудры, каб такую пазіцыю займаць і прасоўваць ідэі нібы з вышыні гадоў.

***- А ты гатовы сталець разам з сваімі слухачамі?***

- Чамусьці навучыць? Хацелася б з цягам часу… Калі ты яшчэ малы, то пяеш пра ўсялякую лухту — наркотыкі, марыхуана, пойла. А калі ты сталееш, то ў цябе з'яўляюцца іншыя каштоўнасці, у любым разе ў табе нешта пераключаецца. І я б сапраўды хацеў, каб са мной так адбылося. Спяваць толькі пра суцэльнае гаўно было б камэрцыяй, г. зн. завіснуць на адным і нікуды не рухацца, бо гэтую ж тэму пра бухло і наркотыкі хаваюць. Ад гэтага ўсяго неяк цягне на ваніты.

***- Ты неаднойчы казаў пра сваю прыхільнасць да беларускай мовы, але прызнаваўся ў поўнай сваёй непісьменнасці. Не адчуваеш сябе няёмка ў сувязі з тым, што ў сваёй краіне ты сказаць не можаш нічога па-свойму?***

- Ды балбес, блін… (усміхаецца). Хацеў бы ў гэтым пляне неяк развіцца, гэтым трэба займацца, прысвяціць час, а я ў цяперашні момант не знаходжу для сябе матыву, каб яно стала для мяне такім важным, і каб я над гэтым пачаў працаваць. Відаць, нешта павінна перамкнуць. А мяне мусіць яшчэ не перамкнула.

***- Ці ты бачыш тут шляхі для далейшага развіцця? У часе разборак з берасцейскімі чыноўнікамі ты прараніў такую фразу, што ўсё ідзе да таго, што ты з'едзеш з краіны.***

- Ну хіба калі прыцісնуць, як некаторыя кажуць, «калі дапяемся»… Хаця я нічога не бачу ў нас такога, за што трэба прэсаваць. Звычайная сацыялкабытавуха, я наогул ні з кім сварыцца не хачу. Але ў любым выпадку выйсці за межы краіны нам не нашкодзіла б, бо ўжо пераследуе адчуванне, што варымся ва ўласным саку. Нам кажуць — чаму мы не паедзем у тую ж Расею, дзе запатрабавана наша тэма. Відаць, да гэтага ўсё якраз ідзе. У нас даволі замкнёная прастора, хочацца больш паветра. Беларусы нібы жывуць на нейкай сваёй маленькай планеце, таму варта ездзіць сябе паказваць ды на другіх глядзець.

**Паводле: tuzin.fm**

## AKUTE ПРЭЗЕНТУЮЦЬ НОВЫ АЛЬБОМ «НАСКРОЗЬ»

**Напярэдадні вялікага тура па Беларусі з праграмай «Як на далоні» гурт Akute прэзентаваў у Інтэрнэце новую песню «Наскрозь».**

Гэта першы новы матэрыял трыа з часоў мінулагодняга альбома «Не існуе». Прэм'ера песні на канцэртах адбылася яшчэ ў лістападзе і, мяркуючы па колькасці аматарскіх відэаздымак на YouTube, яна амаль адразу атрымала прызнанне прыхільнікаў гурта. Студыйная версія з'явілася літаральна днямі і музыкі вырашылі не трымаць яе да лепшых часоў.

***«Песня атрымалася даволі хутка, на адной хвалі. Яна быццам простая – пра каханне, восень і цемру, – але ёсць у ёй нешта незвычайнае. Мы з Ромай недзе тыдзень слухалі сыры дыктафонны запіс з рэпэтыцыі – такога не было з часоў «Адзіноцтва»»***, – прызнаецца Стас Мытнік.

Тур «Як на далоні» будзе першым у кар'еры гурта, нягледзячы на тое, што ва ўсіх гарадах яны ўжо выступалі, і не раз. Новая канцэртная праграма, названая ў гонар адной з песень Ulis, будзе больш канцэптуальна збудаванай.

***«Натуральна, што мы імкнемся да дасканаласці, шукаем нейкія новыя структурныя і візуальныя хады. Будуць і эксперыменты, у тым ліку з разагрэвам. Напрыклад, у Мінску перад намі ўпершыню будзе граць электронны праект Pryzma, у Магілёве з намі зайграе расійскі гурт Kirov, а ў Брэсце – нашыя ўкраінскія сябры з гурта «Фіолет». Усё вельмі разнастайна».***

Расклад тура: 10.04 – Магілёў, «Cuba»; 12.04 – Мінск, «Re:Public»; 13.04 – Віцебск , «Паддашак»; 20.04 – Гомель, ГЦК; 26.04 – Брэст, «1 мая»; 27.04 –Гродна, фэст «Хавайся ў бульбу».

КАНЦЭРТ У БЕРАСЦІ АДБУДЗЕЦЦА 26 КРАСАВІКА Ў ДЖАЗ-РОК КЛУБЕ «1 МАЯ» (САВЕЦКАЯ, 29; БЫЛОЕ ПАМЯШКАННЕ КІНАТЭАТРУ). КОШТ КВІТКОЎ: ПЕРШЫЯ 50 –ПА 40 ТЫС.,АСТАТНІЯ – ПА 50 ТЫС. ДАВЕДКА: +375 29 727 30 97

Гурт AKUTE – слушнае адкрыццё на беларускай рок-сцэне. У склад гурта ўваходзяць вакаліст і гітарыст Станіслаў Мытнік, бас-гітарыст Раман Жыгараў і бубнач Павел “Філ” Філатаў. Стыль гурта самі музыкі вызначаюць як “дыска-дэкаданс”. Мова тэкстаў – беларуская.




**Паводле: generation.by**

# ЧЕГО БОЯТСЯ БЕЛОРУСЫ?

**В белорусском обществе предостаточно социальных страхов. Эксперты диагностируют «болевые точки» и анализируют, как боязнь граждан отражается на развитии страны.**

**БЕЛАРУСЬ ОКРУЖАЮТ ВРАГИ**

Не будет преувеличением сказать, что нередко генератором фобий в белорусском обществе становится государство, отправляя вполне определенный посыл: Беларусь окружают враги.

На пресс-конференции в Минске 15 января Александр Лукашенко среди прочего заявил: *«Поверьте, вокруг нашей Беларуси (я ничего не нагнетаю, мне это не надо для пиара, ни для чего, даже если я завтра президентом не буду, я уже наработался) ходят и зубами щелкают, как голодные волки стадами»*.




Председатель Координационного комитета Национальной платформы, философ, методолог Владимир Мацкевич отмечает: когда в белорусском обществе продуцируется образ внешнего врага и идея, что нашу страну окружают недоброжелатели, речь идет ни много ни мало — о ксенофобии.

Речь идет об инфицированных страхах, когда порождается извращенное представление о том, куда попали те, кто развивается быстрее белорусов. Например, современная идеология Беларуси прессует общество рассказами об ужасах капитализма, информацией о европейском кризис и нашествии мусульман.

Есть еще страх инфантильного происхождения. Он строится на потребности людей в безопасности.

**БЕЛОРУСЫ БОЯТСЯ БОЛЕЗНЕЙ И ОТСУТСТВИЯ ДОЛЖНОЙ СОЦИАЛЬНОЙ ЗАЩИТЫ**

Белорусы понимают: в случае «особых обстоятельств», когда они не смогут работать, как раньше (декрет, длительная болезнь, инвалидность), государство не сможет обеспечить им достойную жизнь. Вот почему в белорусском обществе совершенно очевидна фиксация фобий, связанных с потерей здоровья.

Еще одна распространенная фобия — страх перед людьми с психическими заболеваниями.

В реальности количество преступлений в группе спецучета психиатрической службы (3400-3600 человек в разные годы) уменьшается. По данным РНПЦ психического здоровья, число правонарушений, совершенных диспансерной группой спецучета, в 2009 году составило 261, в 2010-м — 226, в 2011-м — 195.

**ЗАЧЕМ НАГНЕТАЕТСЯ МОРАЛЬНАЯ ПАНИКА?**

Координатор проекта «Гендерный маршрут» Ирина Соломатина обращает внимание: СМИ пишут, что социально-экономическая ситуация в стране в ближайшем будущем может ухудшиться. Хотя, судя по данным соцопросов, более 72% белорусов считают, что за последние три месяца их личное материальное положение либо не изменилось, либо улучшилось, однако они «боятся бури».

Чтобы отвлечь общество от одной проблемы, достаточно запугать его или привлечь его внимание к другой, отмечает эксперт.

В последние несколько лет белорусские религиозные деятели пытаются влиять не только на пересмотр устоявшегося у населения отношение к аборту, но и на государственную гендерную политику, что, по мнению Ирины Соломатиной, свидетельствует о серьезных сдвигах в распределении власти.

— *Появляются разные агенты, которые в своих интересах рационально нагнетают моральную (в том числе и гендерную) панику, борясь за влияние в обществе. Особенно на фоне того факта, что государство не в состоянии экономически поддерживать конкретных людей, т.е. женщин и мужчин с их особенными запросами, потребностями и правами. В центре социальной белорусской политики продолжает стоять семья, где именно женщине вменяется традиционно быть в качестве матери, жены, дочери обеспечивающей не только воспроизводство, но и выживание своей «ячейки»,* — отмечает эксперт.

**КАК ИЗБАВИТЬСЯ ОТ СОЦИАЛЬНЫХ ФОБИЙ?**

Люди не могут не беспокоиться о своем будущем. Плохо, когда это вполне нормальное человеческое чувство перерастает в боязнь изменений.

— *Такой страх создает ситуацию, когда страна перестает успевать за развивающимся миром и оказывается на обочине прогресса*, — считает Владимир Мацкевич. — *Один из компонентов социального мужества заключается в том, чтобы ввязываться в изменения, понимая, в том числе, и их издержки. Развитие предполагает отказ от привычного уютного, это тяжелая работа. Однако это нормальное состояние человека.*

Чтобы постепенно избавляться от социальных фобий, считает эксперт, необходимо стремиться к высокому интеллектуальному и моральному уровню в обществе, а не вынуждать интеллигенцию опускаться на более низкий.

— *Иначе общество потихоньку захлестнет страх мирового кризиса из-за непонимания происходящих событий, а также другие фобии. Если же мы размышляем, спорим и дискутируем, у нас появляется решение проблем. Как только общество понимает, где подстелить соломку, если что, тогда мы и не боимся будущего,* — уверен Владимир Мацкевич.

**Паводле zautra.by**

## КІРМАШ ПРАЕКТАЎ. БЕРАСЦЕ – 21/05/2013

**"Кірмаш праектаў", распачаты ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!", паспяхова прайшоў у Магілёве, Віцебску, Гомелі і хутка прыедзе ў Берасце. Шукаюцца ідэі, здольныя зрабіць мясцовае культурнае жыццё больш цікавым, змястоўным і запатрабаваным!**




Калі нагодай для збору культурніцкіх прапаноў, напрыклад, у Магілёве быў выбітны і адказны статус Культурнай сталіцы Беларусі і СНД, які горад атрымаў на бягучы год, то нагодай для Берасця "Кірмаш праектаў" можа стаць падтрыманне заслужанага статуса моцнага культурніцкага цэнтра Беларусі.

"Кірмаш праектаў" – гэта пляцоўка для абмеркавання ў фармаце lightning talk ("маланкавая размова") культурніцкіх прапаноў, якім неабходна падтрымка ў канцэптуальнай дапрацоўцы, арганізацыі, пошуку самых розных рэсурсаў і партнёраў.

Калі Вы ведаеце, чаго бракуе ў культурным жыцці Вашага горада і вобласці, можаце аформіць свае думкі канструктыўна і перспектыўна, і больш таго – прадставіць праектную ідэю на суд неабыякавай публікі, запрашаем Вас да ўдзелу ў "Кірмашы праектаў", які адбудзецца ўжо ў траўні гэтага года!

На выніковай сустрэчы-прэзентацыі Вы зможаце:

- Распавесці пра свой праект/ідэю шырокай і невыпадковай аўдыторыі;
- Пазнаёміцца з рознымі цікавымі і ініцыятыўнымі людзьмі свайго горада;
- Знайсці аднадумцаў, партнёраў, валанцёраў для рэалізацыі вашай ідэі;
- Атрымаць "парады бывалых" і якасную ацэнку, карысныя для развіцця вашага праекта;
- Заахвоціць сваім прыкладам тых, хто таксама мае файныя ідэі, але пакуль не асмеліўся выйсці з імі на публіку!
- І, такім чынам, зрабіць свой унёсак у тое, каб культурніцкае жыццё вашага горада зрабілася ярчэйшым і цікавейшым!

ПРАЕКТЫ Ў ФАРМАЦЕ ПРЭЗЕНТАЦЫЙ POWERPOINT, PREZI І АНАЛАГІЧНЫХ, А ТАКСАМА ЗАПОЎНЕНУЮ ЗАЯЎКУ ЎДЗЕЛЬНІКА (ГЛЯДЗІЦЕ Ў СУПОЛЦЫ «КІРМАШ ПРАЕКТАЎ» УКАНТАКЦЕ) ДАСЫЛАЙЦЕ ДА 13 ТРАЎНЯ ЎКЛЮЧНА НА E-MAIL: KIRMASH.BREST@GMAIL.COM.

Па ўсіх пытаннях звяртайцеся да каардынатара кампаніі "Будзьма беларусамі!" па Берасцейскім рэгіёне Зміцера Назарава, тэл.: +37529 7273097.

Суполка Укантакце: https://vk.com/kirmasz_brest.

Выніковая прэзентацыя адбудзецца 21 траўня 2013 года.

Жадаем поспехаў і натхнення!

**dzedzich.org**

# ПАРТИЯ ЕДИНОДУШИЯ

## ЗАГИПНОТИЗИРОВАННОСТЬ КАК ЛАЙФСТАЙЛ

**Иногда случайный попутчик расскажет вам про страну больше, чем двухмесячное пребывание в ней. Пишет Ольга Полевикова.**



**В разгар китайского Нового Года я добиралась до Шанхая с самого юга страны. Билетов на поезд нет – ехать нужно стоя. Больше суток в компании сотен китайцев и тысяч баулов и котомок. Лучшее, что с вами может случиться, – вагон-ресторан.**

В вагоне-ресторане шум, гам, странные запахи еды, карточные бои и дым от сигарет, но можно поспать пару часов на столе. За VIP-место нужно платить каждые три часа, ночью действуют скидки. Пошатавшись из соображений экономии полдня по вагонам и вконец осоловев, я покупаю себе девять часов полудремы. Точнее, мне так кажется.

– Что вы думаете о ситуации в Синьцзяне? – внезапно спрашивает меня очень юный китаец на старательном английском. Я недоверчиво вздрагиваю. Меня подсадили за столик к четырем мужикам, двое напротив копаются в своих «Самсунгах», но соседу справа явно интересней иностранка.

– Что-что?

– Как вы, иностранка, относитесь к ситуации в Синьцзяне? – отложив учебник по физике, терпеливо переспрашивает очкарик. Следующие три часа я проведу в разговорах об историческом преимуществе китайской нации.

Моему собеседнику 18 лет, у него едва пробиваются молочные усы. Он возвращается с каникул, чтобы продолжить обучение на технологической специальности в шанхайском университете Фудань, одном из самых престижных в Китае. Будущий инженер, элита нации. Он седьмой ребенок в семье, его папа, богатый фермер, заплатил 10 000 юаней (около 1 200 евро) за право его рождения. Он собирается вступить в коммунистическую партию, не отрицает возможности обучения за границей, но в целом мечтает служить своему народу.

После символического вопроса о Синьцзяне последовали не менее символические вопросы о моем отношении к Тайваню и спорным территориям с Японией. Символические – потому что моего знания предмета вообще не требовалось. При любом варианте ответа собеседник радостно пускался в «правильные» объяснения. Девушка-иностранка для него – объект чисто геополитического интереса. Если подвести черту под последними 70 годами истории Китая, во всех бедах виноваты японцы. Во вторую очередь – американцы. Обрадованно узнав, откуда я родом, и набрав воздуха в легкие, юноша кидается в бой.

- Считаете ли вы Америку суперстраной?

- Какой страной? – не понимаю я его произношения. Он задирает левую руку вверх, имитируя супермена.

- Ну как супермен, суперстрана! – теперь на нас с интересом смотрит весь вагон. - В школе нас учили, что раньше было две суперстраны, СССР и США, но после развала Союза осталась одна суперстрана. Как жительница государства, бывшего в составе СССР, как вы считаете, существует ли угроза Китаю со стороны США?

Плавно и идеологически верно покончив с особенностями внешней политики, мы переходим к внутренней. Я уже начинаю уставать от разговора.

- Правда ли, что на Западе думают, что наша партия немного, – собеседник лезет в переводчик, – авторитарная?

С такой интонацией родители спрашивают про успехи сына-двоечника в школе.

Выясняется, что партия – до сих пор дело серьезное, хоть в ней и состоят 80 миллионов человек, то есть примерно каждый десятый китаец.

Чтобы стать членом партии, вы должны пройти несколько этапов. Вас должны рекомендовать к вступлению – это раз. Два – вы пишете мотивационное письмо на три тысячи знаков в вольной форме на тему «Чем я могу быть полезен Китаю?». Три – вы сдаете политический экзамен и вступаете в (китаец снова лезет в переводчик) communist youth league. А после испытательного срока получаете заветную красную корочку.

- Хотя, честно говоря, если вы не хотите делать карьеру в политике, членство в партии нахрен вам не нужно,– неожиданно признается парень, помешивая тюремного вида еду, которую нам принесли.

Искреннее любопытство в начале разговора сменяется раздражением и жгучим желанием найти брешь в его обороне. Все посылы знакомы, так где же болевая точка, Ахиллесова пята? На какой вопрос он не сможет найти ответа? Политические репрессии? Экономическая отсталость одних районов при индустриальной мощи других? Гонения на журналистов? Цензура интернета, бан сайтов? Отсутствие чего-то, что есть у западных сверстников?

– Вы понимаете, Китай – очень большая страна, и для сохранения sta... stab… – мой собеседник нервно роется в электронном словаре.

- Stability, – понимающе вздыхаю я.

– Exactly! – обрадованно кивает он. – Для сохранения стабильности нужно кое-чем пожертвовать. У Китая особый путь.

Еще как понимаю. Где-то я это уже слышала. Вот он, корень дружбы двух великих братских народов. Приняв мой инсайт за замешательство, будущий инженер трогательно пускается в объяснения:

– Понимаешь, у нас разное мировоззрение. Америка была основана эмигрантами, людьми разного происхождения, которых объединяла общая ценность – свобода. Для народа Китая важнее всего fathers, предки. Вся страна, народ – мы ощущаем себя одной большой семьей. Нам важно держаться вместе. We just have a different values.

– Слушай, это вам в школе рассказывали? – не выдерживаю я.

– No! That's my own opinion! – возмущенно поправляет очки парень. Я ему почему-то верю.

Я так и не узнаю имя своего собеседника – около полуночи под дружный храп всего вагона мы уснем рядом на столе, устав от разности ценностей. Утром он пожмет мне руку и убежит, а я останусь изучать китайские пейзажи за окном. Стройка, стройка, свалка, стройка, город.

Я бы посчитала, что мне попался очень умный фрик. Но нет – друзья, которые давно живут в Китае, рассказывали про такую поголовную «загипнотизированность» ровесников.

Поднебесную как-то неудобно описывать в терминах, придуманных в западном логоцентрическом обществе. Авторитарный капитализм? Капиталистический коммунизм? Патриотическая диктатура?

Тут много и радостно потребляют (кому есть что потреблять, конечно), любят поспать во время рабочего дня, и по большому счету большинству населения партия до фонаря.

Сложно сказать за весь миллиард поголовья – портреты Мао всё ещё висят у частных лиц (я лично видела в глухих деревнях и у таксистов рядом с фигурками Будды). И наверняка есть те, кто слил свои счета в офшорные зоны. Но дело в другом.

Сложно представить такой разговор со студентом престижного универа, например, в Беларуси. При том, что студент не будет казаться моральным уродом. Беспредельная любовь к Евросоюзу как к политическому образованию тоже кажется сомнительной. А в Китае – можно. У них получается всё знать, но искренне верить в правильность решений партии. Мы, народ. Это не связано с глупостью, это сложно назвать патриотизмом – это единодушие. Партия единодушия. Коммуна тут была еще до коммунизма.

Тут любят танцевать массовые танцы, и если спорят – то всем кварталом. Нам, индивидуалистам, не понять. Это настораживает. Но it's all about different values, you know.

# ІМЁНЫ БЕЛАРУСАЎ XVI СТАГОДДЗЯ

**Калісьці беларусы былі язычнікамі, дзецям давалі свае мясцовыя паганскія імёны. Потым наданнем імёнаў займалася царква: прынёс хрысціць дзіця — атрымаў ад папа імя ў гонар нейкага святога. Бывала, што мясцовая арыстакратыя часам мела тры імені: паганскае (дадзенае бацькамі пры нараджэнні), праваслаўнае і каталіцкае (якія давалі гэтыя цэрквы пры пачарговым хрышчэнні ў кожнай з іх). З часам беларусы страцілі мясцовыя імёны ўласныя, іх замянілі праваслаўныя (званыя «рускімі») і каталіцкія (званыя «польскімі»). Піша Андрэй Вашкевіч.**



ПРАБЛЕМА ДАСЛЕДАВАЦЬ РАНЕЙШЫЯ БЕЛАРУСІЯ ІМЁНЫ І ВЯРНУЦЬ ІХ ВА ЎЖАТАК НАДЗВЫЧАЙ АКТУАЛЬНАЯ, АДНАК ХАЦЕЛАСЯ Б ПЕРАВЕСЦІ ЯЕ НА НЕЙКІЯ БОЛЬШ РЭАЛІСТЫЧНЫЯ РЭЙКІ.

Бо Рагнеда, Рагвалод і Вітаўт з Вячкам хаця і сталі досыць папулярнымі ў некалькі апошніх дзесяцігоддзяў, аднак прывандравалі ў нашу свядомасць з беларускага гістарычнага дыскурсу пачатку XX стагоддзя, а не з нейкай глыбокай народнай традыцыі.

Павярхоўна прагледзеў толькі адзін гістарычны дакумент XVI стагоддзя, які аказаўся пад рукой. Гэта зроблены ў 1550-х гадах (прыкладна 450 год таму) попіс Гродзенскай каралеўскай эканоміі. Прыведзеныя ў попісе імёны — гэта імёны тагачасных сялян, пераважна праваслаўных, хаця на той час у рэгіёне ўжо была невялікая колькасць каталіцкага насельніцтва.

Адным словам гэта імёны нашых непасрэдных продкаў. Згадваюцца найперш мужчынскія імёны як землетрымальнікаў, а жанчыны (пераважна ўдовы) сустракаюцца рэдка. Таму прыводжу тут спіс менавіта мужчынскіх імёнаў XVI стагоддзя.

***Першая група, імены, вядомыя і папулярныя сёння:***

Ігнат, Андрэй (Андрусь, Андрыяш), Антон, Станіслаў (Станька), Раман, Павел, Максім, Мікалай, Тарас, Ясь (Янук, Іван, Івашка, Іванец), Сяргей, Дзмітрый, Аляксей (і Алехна), Грышка (ад Рыгор, Грыгорый), Васіль, Сенка (мабыць, ад Арсень), Санюк (ад Аляксандр).

***Другая група, рэдкія сёння, напаўзабытыя імёны:***

Панас, Марцін (Марцішка), Гаўрыла, Ярома (Ярэма), Карп, Піліп, Астап, Анупрэй, Амяльян (Мяльян, Мялян), Яўсей (Аўсей), Зіноў (ад Зіновій), Селівон, Астап (Астапец), Здан (Ждан), Парфён, Ёшка (ад Іосіф, Язэп).

***Трэцяя група, зусім забытыя сёння імёны — сярод іх сустракаюцца як славянскага, так і балцкага кораня:***

Мілан, Яч (Ячка), Гашчыла, Дзешка, Мажэйка, Будзька, Вялічка, Мел (Мель), Крас, Насута, Войтка, Жук, Бел (Бель), Місюк, Грынь, Бацечка, Юргель, Хілімон, Лют (Люцік), Галаўня, Нарко, Палуян, Гапон, Каленік, Конан, Малафей, Голуб (Галубец).

Імёны з апошняй групы захаваліся ў нас сёння толькі як прозвішчы.

Дарэчы, акурат у XVI стагоддзі на нашых землях ішоў працэс фарміравання сталых радавых прозвішчаў, але гэта тэма для асобнай размовы. Скажам толькі, што амаль паўтысячагоддзя таму імя Нарко было куды больш папулярным, чым, скажам, Сяргей, а Мілан і Конан паспяхова канкурыравалі з Васілём і Дзмітрыем. А ўжо Амяльянаў, Гаўрылаў, Астапаў дык наагул было не злічыць.

Трэба таксама падкрэсліць яшчэ некалькі важных асаблівасцей ужывання беларусамі ўласных імёнаў у той час.

1. Ніякай літары і гуку «Ф», таму былі толькі Хведзь, Хведзька, Ходар, Хведар або Тодар (а не Фёдар), Хама, Тамаш (а не Фама), Трахім (а не Трафім).

2. Не баяліся скарачэнняў, часам смешных для нас сёння, але сэнсоўных. Напрыклад Марцішка, Астапец або Галубец не мелі ніякага паблажлівага зместу. Сэнсоўнасць заключалася ў тым, што імя, гледзячы па ўсім, магло эвалюцыянаваць з узростам чалавека (Андручок — Андрусь — Андрэй — Андрыяш).

3. Імёны вельмі часта набывалі арыгінальнае беларускае гучанне. Прывяду тут класічны хрысціянскія імёны Савашчан (Себасьцьян), Алізар (Елізарый), Баўтрамей (Варфаламей), Еўлаш (Яўлампій). Нячаста, аднак сустракаліся сярод сялян і іншыя тыпова «біблійныя» імёны — Майсей, Абрам, Адам, Сава, Лука.

4. Шляхта часцей ужывала імёны, якія карыстаюцца папулярнасцю і сёння. Магчыма гэта было звязана з тым, што сялянскаму дзіцяці поп даваў імя выключна па святцах, а шляхіц ужо мог «адкупіць» свайго малога і той станавіўся не Малафеем, а, напрыклад, Раманам. Значна менш экзатычных з сучаснага пункту гледжання імёнаў было і ў тагачасных гараджан, прынамсі гродзенцаў.

Яшчэ раз папрашу прабачэння ў дзяўчат, што абмінуў іх імёны. Прапаную толькі некалькі.

Напрыклад, у дадатак да традыцыйных Соф'і (Зоф'і, Зосі), Анастасі, Ганны або Марыі прапанаваў бы вам разважыць пашырэнне такіх старых беларускіх імёнаў як Галуба, Уліта, Валіянта, Дося, Матрона, Лішка або Касюта.

Бо менавіта так звалі нашых далёкіх прапрабабуль.

**Паводле nn.by**

# РАЗМАЎЛЯЙ ПА-БЕЛАРУСКУ ПРАВІЛЬНА

**Таго, хто размаўляе ці пачынае размаўляць па-беларуску чакаюць шматлікія складанасці ды непаразуменні з выкарыстаннем некаторых слоў.**

**ДАГЛЯД І НАДГЛЯД**

Гэтая памылка выклікана ўплывам расейскай мовы. Па-расейску «досмотр» пачынаецца з «д», вось і пішам аўтаматычна. Між тым расейскае слова «досмотр» адпавядае беларускаму «надгляд». Правяраць, аглядаць — значыць «наглядаць». А вось словы «дагляд», «догляд» маюць зусім іншае значэнне: клопат, увага. Глядзяць, даглядаюць дзіця, старога.

Ёсць яшчэ словы «прыгляд» (не пакідайце клункаў без прыгляду), «агляд» (доктарскі ці конкурс-агляд), «падгляд» (пчол). З імі памылкі рэдкія. А вось слова «надгляд» некультурна забытае.

*«Добры дзень! Мытня Беларусі! Падрыхтуйце рэчы для мытнага надгляду!»* Так павінны звяртацца мытнікі да падарожнікаў. І так павінны пісаць журналісты: *«На футбольным стадыёне трэба ўсіх надглядзець. А калі нейкі адмарозак ўсё падарве?»*.

**АДНОСІНЫ, СТАЎЛЕННЕ, ДАЧЫНЕННІ**

Па-беларуску адносіны да кагосьці, погляд на штосьці, разуменне чагосьці называюцца «стаўленне». І адпаведны дзеяслоў: «ставіцца». *Я добра стаўлюся да ідэй кансерватызму. Маё стаўленне да ўчынкаў новага калегі негатыўнае. Якое тваё стаўленне да Ганулі?*

А вось характар паводзін, абыходжання між людзьмі, сувязь між працэсамі, залежнасць з'яваў называецца «адносіны». У значэнні «сувязь» гэтае слова мае яшчэ сінонім «дачыненне». Слова адносіны мае яшчэ сінонім «стасункі». Ён ужываецца як у значэнні «адносіны» ва ўсіх сэнсах, так і ў значэнні ад дзеяслова «стасавацца, стасаваць» — г.зн. «быць у адпаведнасці, адпавядаць». Ёсць і словы «ўзаеміны», «узаемадачыненні». *Адносіны Беларусі і Расіі не роўныя. Ва ўсіх адносінах ён чалавек выдатны. Коля спыніў дачыненні з Гануляй. Якое гэта мае дачыненне да мяне?*

Той самы сэнсавы падзел ёсць у большасці іншых еўрапейскіх моваў. Па-ангельску: relations (relationship, regard) / attitude, па-французску relations (relation) / attitude.

Не блытайце словаў стаўленне і адносіны/дачыненні, стасункі, узаеміны, ставіцца і адносіцца.

*Коля спыніў дачыненні з Гануляй. Але: якое тваё стаўленне да Ганулі?*

**КРАСНАЯ ПЛОШЧА, КРАСНЫ БОР**

Плошча Красная, бо «Красная» тут не ў значэнні колеру, а ў значэнні «прыгожая». Гэта старое, паэтычнае слова. Ёсць прымаўка: *«Не радзіся красны, а радзіся шчасны»*.

Усё, што звязана з колерам, — чырвонае: Чырвоная армія, чырвоны яблык, чырвоная ружа, чырвоная каліна. А на ўсё з красой звязанае па-беларуску кажуць: *краснае пісьменства, Красны Бор (раён у Мінску), Краснаполле, Красны Бераг, прыўкрасны.* Грыб падасінавік называюць яшчэ «краснюк», бо надта ж ён харошы.

**Паводле nn.by**




**Малюнак: Г. Лабадзенка, «Дзіцячая заМова»**

# АВАРИЯ НА ЧАЭС
## 27 ЛЕТ СПУСТЯ

**Излагается анализ причин аварии на 4-м блоке Чернобыльской АЭС (ЧАЭС) в 1986 году. Представлено мнение специалистов-атомщиков и позиция проектантов реакторов ЧАЭС.**

### ЧАЭС: ПОИСК ПРИЧИН АВАРИИ



Определение причин аварии на четвертом блоке ЧАЭС является одним из наиболее дискуссионных вопросов и сегодня.

Существует два лагеря профессионалов, которые имеют противоположные взгляды на причины разрушения энергетической установки в апреле 1986 года. Первые – это проектировщики, которые утверждают, что основной причиной аварии является непрофессиональная работа эксплуатирующего персонала блока. Вторые – это непосредственно эксплуатационный персонал, который не менее аргументировано доказывает наличие существенных недоработок в конструкции реакторов РБМК, и перекладывают ответственность за случившееся на проектировщиков.

За более чем двадцатилетний период, который прошел с момента аварии, дискуссии о первопричинах аварии не умолкают. С каждым годом, который отделяет нас от событий апреля 1986 года, появляются все новые и новые версии и гипотезы.

### РЕАКТОР ЧАЭС

Несмотря на наличие непрекращающейся дискуссии между проектантами и эксплутационным персоналом по вопросам истинных причин аварии, существует официально принятый перечень причин взрыва реактора на ЧАЭС. Перечень причин был определен путем детального и всестороннего анализа событий приведших к аварии ядерной установки. Необходимо отметить, что для установления причин аварии была создана Государственная комиссия Госатомнадзора бывшего СССР, которая была создана 27 февраля 1990 года.

### ОШИБКИ ПРОЕКТАНТОВ

Комиссия признала, что для конструкции реактора является наличие положительного парового коэффициента реактивности и положительного коэффициента реактивности мощности.

Благодаря этому, как следствие ошибки проектировщиков реактора, при расчетах физических и конструктивных параметров активной зоны, реактор представлял собой динамически нестабильную систему.

Комиссией было проанализировано 13 версий причин аварии. Наиболее вероятной является версия, которая связана с наличием эффекта реактивности системы управления и защиты реактора.

Такими выглядят технические причины. Вместе с этим, экспертами отмечаются более глубокие причины катастрофы – это низкий уровень культуры ядерной безопасности в бывшем СССР. Что за этим кроется?

> ОТСУТСТВИЕ РАЗВИТОЙ СИСТЕМЫ ЯДЕРНОГО ЗАКОНОДАТЕЛЬСТВА, НЕВЫПОЛНЕНИЕ ПРИНЦИПА ПОЛНОЙ ОТВЕТСТВЕННОСТИ ЗА БЕЗОПАСНОСТЬ ЯДЕРНОЙ УСТАНОВКИ ЭКСПЛУАТИРУЮЩЕЙ ОРГАНИЗАЦИЕЙ.

Недостаточное внимание к человеческому фактору и его возможному влиянию на безопасность АЭС. Недостаточное внимание к опыту других государств и отставание методологии анализа безопасности ядерных энергетических установок СССР.

Как следствие, к эксплуатации были допущены энергоблоки с существенным дефицитом безопасности (положительный выбег реактивности при вводе в активную зону стержней системы защиты и управления и т.д.), которые вместе с неадекватными действиями персонала стали непосредственными причинами аварии.

Что подразумевают специалисты, когда говорят о «неадекватных» действиях персонала ЧАЭС?

### ОШИБКИ ПЕРСОНАЛА

Как показал анализ, авария на четвертом блоке ЧАЭС относится к классу аварий, связанных с вводом избыточной реактивности. Конструкция реакторной установки предусматривала защиту от подобного типа аварий с учетом физических особенностей реактора, включая положительный паровой коэффициент реактивности.

К числу технических средств защиты относятся СУЗ по превышению мощности и уменьшению периода разгона, блокировки и защиты по неисправностям при переключении оборудования и систем энергоблока, а также САОР.

Кроме технических средств защиты предусматривались также строгие правила и порядок ведения технологического процесса на АЭС, определяемые регламентом эксплуатации энергоблока. К числу наиболее важных правил относятся требования о недопустимости снижения оперативного запаса реактивности ниже 30 стержней.

В процессе подготовки к проведению испытаний и в процессе проведения испытаний с нагрузкой собственных нужд блока персонал отключил ряд технических средств защиты и нарушил важнейшие положения регламента эксплуатации в части безопасного ведения технического процесса.

В результате этих нарушений реактор был приведен в такое неустойчивое состояние, в котором существенно усилилось влияние положительного коэффициента реактивности, что и явилось в конечном счете причиной неуправляемого роста мощности реактора.

Тщательное расследование причин аварии, произведенное специалистами, показало, что корни аварии лежат глубоко в сфере проблем взаимодействия человека и машины, что основным «движущим» фактором аварии были действия операторов, грубо нарушивших эксплуатационные инструкции и правила управления энергоблоком.

> ПОДОБНО ДРУГИМ «РУКОТВОРНЫМ» КАТАСТРОФАМ, АВАРИЯ ПРОИЗОШЛА ИЗ-ЗА ТОГО, ЧТО ОПЕРАТИВНЫЙ ПЕРСОНАЛ, ЖЕЛАЯ ВЫПОЛНИТЬ ПЛАН ЭКСПЕРИМЕНТАЛЬНЫХ РАБОТ ЛЮБОЙ ЦЕНОЙ, ГРУБО НАРУШИЛ РЕГЛАМЕНТ ЭКСПЛУАТАЦИИ, ИНСТРУКЦИИ И ПРАВИЛА УПРАВЛЕНИЯ ЭНЕРГОБЛОКОМ.

Сказались, конечно, и некоторые особенности физики активной зоны, конструктивные недостатки системы управления и защиты реактора, которые привели к тому, что защита реактора не смогла предотвратить разгон на мгновенных нейтронах.

В более подробных информациях о происшедшей аварии показано, что операторы произвели такие запрещенные действия, как блокирование некоторых сигналов аварийной защиты и отключение системы аварийного охлаждения активной зоны; работали при запасе реактивности на стержнях СУЗ ниже допускаемого регламентом значения; ввели реактор в режим работы с расходами и температурой воды по каналам выше регламентных, при мощности реактора ниже предусмотренной программой.

Эти и другие ошибки операторов привели к такому состоянию реактора, что в условиях роста мощности защитные средства реактора оказались недостаточными, что и привело к значительной сверхкритичности реактора, взрыву и разрушению активной зоны.

Таким образом, первопричиной аварии на Чернобыльской АЭС было крайне маловероятное сочетание допущенных персоналом нарушений порядка и режима эксплуатации, которые разработчики реакторной установки считали невозможными и поэтому не предусмотрели создания соответствующей такой ситуации системы защиты.

### ВЫВОДЫ

В настоящее время проведен комплекс технических мероприятий на всех реакторах РБМК, позволивший перевести эти реакторы в режим работы, исключающий проявление положительного эффекта реактивности в условиях преднамеренных отключений технических средств защиты и нарушений регламента эксплуатации.

> АНАЛИЗ ПРИЧИН АВАРИИ СВИДЕТЕЛЬСТВУЕТ, ЧТО ОПРЕДЕЛЕННЫЕ СИСТЕМЫ БЕЗОПАСНОСТИ ДОЛЖНЫ ФУНКЦИОНИРОВАТЬ ИСКЛЮЧИТЕЛЬНО НА ОСНОВАНИИ СИГНАЛОВ ТЕХНИЧЕСКИХ СИСТЕМ КОНТРОЛЯ ПАРАМЕТРОВ ЭНЕРГЕТИЧЕСКОЙ УСТАНОВКИ, А НЕ НА КОМАНДАХ ОПЕРАТОРОВ.

Примером реализации такого подхода является система, которая в последующем была установлена на реакторах РБМК – это автоматизированная система расчета оперативного запаса реактивности с подачей сигнала аварийной остановки реактора при условии уменьшения запаса реактивности ниже определенного (заданного) уровня.

Из изложенного выше следует, что поиск исчерпывающих ответов о первопричинах аварии на Чернобыльской АЭС продолжается. Продолжается и дискуссия экспертов на страницах средств массовой информации.

**По материалам: chornobyl.ru**

# БЕЛАРУСКАЯ ГІСТОРЫЯ ЧАКАЕ СВАІХ ХІЧКОКАЎ

**Беларуская мінуўшчына хавае ў сабе мноства гісторый, ад якіх мурашкі па скуры. Вось некаторыя з іх.**

### КРЫВАВАЕ ЗАБОЙСТВА КНЯЗЯ ЖЫГІМОНТА

Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч сем гадоў ішоў да вярхоўнай улады. Ішоў па трупах — інакш не бывала ў далёкім XV стагоддзі. Ён перамог у цяжкай грамадзянскай вайне свайго стрыечніка Свідрыгайлу, паставіў на калені магнатаў, заліў крывёй мяцежныя княствы. Але змаганне за ўладу зрабілі Жыгімонта падазроным. Мы сёння нават сказалі б — паранаідальна падазроным… Жыгімонт кідаўся па пакоях Троцкага замка як дзікі звер, катаваў паноў, якіх падазраваў у змове, канфіскоўваў іх маёнткі. Змова ў такіх абставінах проста не магла не з'явіцца. Князі Чартарыйскія, віленскі ваявода Даўгерд і троцкі ваявода Лялюш вырашылі пазбавіцца ад жорсткага ўладара-вампіра.

Хітры Чартарыйскі прывёў у замак абоз з трохсот вазоў сена. У кожным возе быў схаваны ўзброены ваяр. Раззброіўшы ахову, змоўшчыкі кінуліся шукаць Жыгімонта. Ён быў у капліцы, замкнутай зсярэдзіны. Як змусіць князя адамкнуць цяжкія дзверы? Пачнеш ламаць — уцячэ падземным ходам, а потым літасці можна не чакаць.

І тут Чартарыйскі пабачыў непадалёк любімага князевага мядзведзя — і «ад яго імя» падрапаўся пазногцямі ў дзверы. Што там былі за пазногці — можна сабе ўявіць, калі Жыгімонт паверыў, што драпаецца сапраўдны мядзведзь і адчыніў. Змоўшчыкі ўварваліся, доўга пераследавалі яго па капліцы… Урэшце, яны загналі ахвяру ў кут і разбілі князю галаву жалезнымі камміннымі вілкамі. Плямы крыві Жыгімонта на сценах паказвалі і праз многа гадоў пасля забойства. Трэба адзначыць, праўда, што жорсткасць князя Жыгімонта была апісаная ў хроніках, што складаліся «партыяй пераможцаў» пасля яго трагічнага сыходу з пасады і з жыцця.

### «ХТО КАГО ЗМОГ, ТОЙ ТАГО З'ЕЎ»: КАНІБАЛІЗМ У КРАМЛІ

Людажэрства — паважны занятак герояў фільмаў жахаў. Але што значыць той варты жалю адзіночка Ганібал Лектар у параўнанні з цэлым літоўска-польскім гарнізонам, што апынуўся без правіянту ў маскоўскім Крамлі? Вось дзе сюжэт!

У 1612 нашы продкі выправіліся ў Маскву, саджаць на вялікакняскі стол каралевіча Уладзіслава Вазу. Аднак — не заладзілася. Кароль і вялікі князь Жыгімонт III захацеў экстрана хрысціць Масковію ў каталіцтва, насельніцтва заўпарцілася, узнялося і — некалькі тысяч шляхціцаў апынуліся аблажаныя ў маскоўскім Крамлі.

«Дыярыюш» Мазырскага харужага Язэпа Будзілы апісвае жахлівую карціну голаду шляхты: *«Трускоўскі, паручнік пяхоты, двух сыноў сваіх з'еў, гайдук адзін таксама сына з'еў, другі — сваю матку; таварыш таксама адзін слугу з'еў свайго; адным словам, сын бацьку, бацька сыну не даваў літасці; пан для слугі, слуга для пана не быў бяспечны; хто каго ўвогуле змог, той таго з'еў, здаравейшы слабейшага забіў».*

Знайшло адбітак у Дыярыюшы і вяршэнства права, якое панавала ў нашых продкаў: *«У аддзеле п. Ляніцкага гайдукі з'елі памерлага гайдука; нябожчыкаў сваяк з іншага дзесятку скардзіўся перад ротмістрам, маўляў, яго я меўся першым з'есці, як сваяк, тыя ж адпіраліся, мы найперш меліся яго з'есці, бо з намі ў адным шыхце і аддзеле быў. Ротмістр не ведаў, які вынесці дэкрэт, баючыся, каб нейкі з бакоў, пакрыўджаны дэкрэтам, самога б суддзю не з'еў…»*

І ўсё гэта — на фоне закурадымленых муроў, пад крык вароніных грамад і грукат аблогі… Праўда, гісторыкі падазраюць, што мог Будзіла перабольшыць, знаходзяць штампавана падобныя апісанні ў іншых успамінах таго часу… Хто ж не любіў, вярнуўшыся з паходу, уразіць жанчын і дворню аповядам пра перажытыя жахі. Кінематограф жа тады яшчэ не вынайшлі.

### ХРЫШЧЭННЕ МЁРТВАГА БАЦЬКІ

Папулярны ў фільмах жахаў сюжэт з муміфікаваным трупам, які псіхічна хворыя сваякі захоўваюць дзесьці на гарышчы, таксама меў аналагі ў гісторыі ВКЛ.

У 1636 годзе княгіня Ганна-Алаіза, апошняя з слаўнага роду князёў Астрожскіх, вырашыла перахрысціць свайго бацьку з праваслаўя ў каталіцтва. Яе не спыняла нават тое, што Аляксандр Астрожскі, унук слаўнага гетмана Канстанціна, аўтара аршанскай перамогі, ужо 30 гадоў як… памёр.

Фанатычна рэлігійная жанчына, выхаванка езуітаў, якая ўсё жыццё трымалася аскезы і насіла пад вопраткай калючы драцяны пас, яна не магла трываць тае думкі, што яе бацька памёр «схізматыкам».

Летапіс паведамляе, як у ноч перад Вялікаднем дворня Ганны-Алаізы атачыла праваслаўны Багаяўленскі сабор: *«Прывялі святара, хоць не хацеў, каб царкву адамкнуў… А калі ўвайшлі ў царкву, пабачылі, што саркафаг каштоўна аздоблены, на колькі тысяч, што самі езуіты дзівіліся, стаяў на склепе, дзе князі ляжаць. Саркафаг той раструшчылі, адсоўваючы, і дабіліся да склепу, і знайшлі ў труне толькі косткі, бо ўжо гадоў 34, як памер князь, а труна цынкавая. І панеслі яе ў кляштар.*

*Там адзін езуіт сеў за труной, прыкрыўся, а другі пытае, а той адказвае ад тых костак. І кажа: „Аляксандру, чаго сюды прыйшоў?“ А той адказвае: „Збавення шукаю“. „А чаму ж раней не шукаў?“. „Бо не знаў, што вера лепшая рымская“. А княжна косткі перамыла, зёлкамі пахучымі пераклала. Езуіты хрысцілі ў сваю веру косткі і вадою пакрапілі, і імʼя змянілі на Станіслава…»*

Гэтая гісторыя «праславіла» Ганну-Алаізу на ўсю Рэч Паспалітую, бо была выняткова нават ва ўмовах тагачаснай міжканфесійнай барацьбы.

### ВЯДЗЬМАК МАКСІМ ЗНАК

Цёмныя магі і вядзьмаркі — і такое траплялася ў Залатым і наступных вяках беларускай гісторыі. Прыкладам можа быць Гарадзенская справа 1691 г., апісаная гісторыкам Уладзімірам Лобачам: *«Падставай для яе стала скарга (пратэстацыя) на жыхара маёнтка Коханава Максіма Знака, падданага гарадзенскіх брыгітак, з боку Сымона Юхальскага з жонкай, месцічаў Горадні, уладальнікаў шынка, на «счараванне асоб з дзецьмі вышэйпамянёных і цэлага дому».*

Знак адмаўляў віну, прызнаючыся толькі ў знахарскіх здольнасцях: «не разумею нічога больш, як толькі падзьмухаць умею, калі хто на жывот хворы».

Суд прыступае да катаванняў. Падчас першага Знак прызнаецца, што ўчыніў чары на шынок Юхальскага: «плюнуў і кляў тымі словамі, што б як сліна знікла, так і яны (Юхальскія. — У.Л.) каб зніклі», аднак, адчыніць сваіх чараў не можа.

Высвятляецца і матывацыя здзейсненага злачынства — канкурэнцыя ў гандлі! Замоўцай чараў выступіла арандатарка другога шынка Полька Жыдоўка, камерцыйныя справы якой ішлі горай, чым у Юхальскага.

Праўдзіва, што Максім Знак як чалавек, што



Князь ВКЛ Жыгімонт Кейстутавіч

прызнаў сваю віну ў шкоданосным чарадзействе і сувязі з іншымі чараўнікамі, мусіў быць асуджаны на спаленне…

### ЗАМУРАВАНАЯ ЖАНЧЫНА

Вусцішная легенда пра Белую Панну бытуе ў Гальшанах. Яна распавядае пра будаўніцтва францысканскага кляштара ў Гальшанах. Фундатар Павал Стэфан Сапега прымеркаваў скончыць будаўніцтва на вялікае касцельнае свята. Амаль усё ўжо было гатова. Але ў час агляду будынку адна са сцен нечакана абвалілася. Магнат загадаў тэрмінова аднавіць. Але і ў другі раз сцяна абвалілася.

Будаўнікі вырашылі, што будоўля патрабуе ад іх ахвяры. І аддаць трэба самае дарагое. Дамовіліся, што замуруюць жонку, якая першай прынясе на будоўлю палудзень свайму гаспадару.

Пачуўшы гэта, захваляваўся малады цесля, стаў маліць Бога, каб яго прыгожая жонка забавілася дома і не прынесла яму палудзень першай. Але яго малітвы, відаць, не былі пачуты. Менавіта яе, маладую і прыгожую, замуравалі ў сцяну… Прайшлі стагоддзі, разбурыўся Гальшанскі замак, колькі разоў перабудоўваўся касцёл, а кляштар стаіць нязрушна. Душа маладой жанчыны трымае яго…

І нібыта ў сярэдзіне 1990-х пры рэстаўрацыі кляштара, які захаваўся амаль у першапачатковым выглядзе з часу пабудовы — пачатку XVII ст., у сутарэннях выявілі замураваны ў нішы шкілет. Косткі ляжалі дзіўна.

Ногі — пад сцяною, чэрап — бліжэй да цэнтру пабудовы, рукі раскінутыя крыжам… Быццам некалі чалавек стаяў на каленях і «трымаў» будынак. Шкілет належаў маладой жанчыне. А неўзабаве ад таго самага месца, адкуль забралі парэшткі, праз увесь будынак прайшла расколіна…

З таго часу ў кутняй келлі кляштара, што на першым паверсе, пачаў з'яўляцца прывід Белай Дамы — паўпразрысты сілуэт жанчыны з зачасанымі назад доўгімі валасамі.

**Паводле: nn.by**

## ДАРЭЧЫ

- Сынок, ну як там ва універы, звычайна?
- Ды звычайна, мама.
- А ў параўнанні з аднагрупнікамі ты як, на ўзроўні?
- Ды там адны дурылкі!
- Дык ты яшчэ і лепш за іх?!
- Ну... так таксама нельга сказаць... Але я на ўзроўні!

***

Сісадмін Чыпсеткін пракладаў сетку ў пустым кабінеце вялікага службоўца. У сваім жыцці гэты малады хлопец марыў мець шмат цікавай працы, пісаць таленавітыя праграмы і заслужыць павагу калегаў.

Прытаміўшыся, ён прысеў у пустое крэсла. Тут у кабінет зайшоў наведвальнік і пераблытаўшы сісадміна са службоўцам, уручыў яму хабар у 50 тысяч баксаў.

Зараз Чыпсеткін марыць толькі пра тое, каб сядзець у гэтым крэсле. Ён у труне бачыў цікавую працу, таленавітыя праграмы і павагу калегаў.

***

Мужык атрымаў на працы дзве пуцёўкі ў санаторый. Адну ён аддаў жонцы, а другую - палюбоўніцы. Жонка і палюбоўніца паехалі, і, калі вярнуліся, муж пытае жонку, гледзячы на фатаграфію палюбоўніцы:

- А хто гэта такая?
- Ды там у санаторыі дзяўчына лёгкіх паводзін. З усімі пераспала.

Пасля мужык пайшоў да палюбоўніцы і пытае, гледзячы на фатаграфію жонкі:

- А гэта хто такая?
- Ну, гэта проста добрая і сумленная жанчына, з мужам прыехала, з мужам і з'ехала.

***

Мужчына павінен памятаць:
-дзень, калі пазнаёміліся,
-дзень, калі было першае спатканне,
-дзень, калі першы раз пайшлі ў рэстаран,
-дзень, калі «а памятаеш, я тады калготкі парвала»,
-дзень, калі быў першы пацалунак,
-дзень, калі быў першы сэкс.

Мужчынскі мозг так уладкаваны, што проста не можа запомніць столькі датаў, і таму мужчына імкнецца гэта ўсё за адзін дзень зрабіць.

***

— Алё, гэта жаночая кансультацыя?
— Так.
— А педаль тормазу справа ці злева?

***

- Можа, зойдзем да мяне, вып'ем кавы?
- Ну, не ведаю, кава на ноч неяк…
- Ну, калі ласка! У мяне не было кавы ўжо паўгода!

***

Толькі што мая дачка прыйшла да мяне, і сказала:

- Тата, я хачу, каб ты неадкладна выпісаў мяне з хаты. Здай мой пакой студэнтам. Выкінь у акно ўсю маю адзежу. Прадай на таўкучцы мае тэлевізар, музычны цэнтр, айфон і наўтбук. Усе мае ўпрыгожванні ахвяруй у Чырвоны Крыж. Пасля чаго адмоўся ад мяне наогул, і ніколі больш са мной не размаўляй. Выкрэслі мяне з завяшчання і перапішы маю долю на братоў.

Наогул, яна сказала не прама так. Яна сфармулявала ўсё гэта крыху карацей:

- Тата, пазнаёмся з маім хлопцам. Яго клічуць Мухамед.




**Па гарызанталі:** 1. Вёска, дзе адбылася вялікая бітва сярэдневякоўя паміж англійскім і французскім войскамі. 5. Збор з Мінска, які адмяніў кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III. 13. Шляхцянка ў паэме Адама Міцкевіча «Дзяды». 14. Кіраўнік войска ВКЛ у Аршанскай бітве. 15. Месцазнаходжанне Міжнароднага бюро меры і вагі. 16. Адзін з першых нашых алімпійскіх чэмпіёнаў на каноэ-двойцы. 17. Перапісванне ўніз. 20. Галушка з цеста, ёю карлілі гуся для параднага блюда на дзень Святога Марціна. 21. Што нашы продкі рассыпалі па градах ад асвячонай вярбы, каб быў добры ўраджай агуркоў? 22. Матэрыял для пісьма. 25. Другая назва меднай манеты салід. 26. Кандытарская прадукцыя, якая выраблялася беларускімі аптэкамі. 28. Жанр, яго выкарыстоўвала Леаніла Чарняўская для напісання дзіцячых кніг. 30. Альбом фотамастачкі Алены Адамчык аб нашых суайчынніцах. 35. Апрацоўка зямлі плугам. 36. Сярэбраная манета, у Беларусі з'явілася ў абарачэнні ў XVI стагоддзі. 37. Вялікі продаж тавару, які штогод, пачынаючы з XVI стагоддзя, праводзіцца ў Заслаўі. 40. Высокі дэкаратыўны куст з дробнымі белымі кветкамі. 41. Горад, з якім у сярэдневякоўі гандлявалі беларускія купцы Аверкі. 42. Колішняя назва мясной лаўкі. 45. Што заслужыў наш зямляк Анатоль Бярозка ў жыхароў штата Мінесота (ЗША), дзе яго імем назвалі шпіталь? 46. Прафесія прадстаўніка беларускага роду Фёдара Плявакі, акрамя адваката. 47. Дакумент, дваццаць пятым чалавекам у свеце яго атрымаў беларускі доктар медыцыны Юрый Бандажэўскі, што дазволіла яму жыць на тэрыторыі любой краіны Еўрасаюза. 48. Дошчачка, дзе мастак змешвае фарбы.

**Па вертыкалі**: 2. Музей-сядзіба Іллі Рэпіна, непадалёку ад Віцебска. 3. Зборнік вершаў Навума Кісліка. 4. Адзін з заснавальнікаў беларускага выдавецкага таварыства «Наша хата» ў Вільні. 6. Медыцынская ўстанова, пабудаваная ў Паставах Антоніем Тызенгаузам. 7. Птушка — цар паветра. 8. Беларуская паэтка-эмігрантка, перакладчыца вершаў Джозефа Кіплінга. 9. Паведамленне аб падзеі. 10. Адмова Славаміра Адамовіча ад ежы ў беларускай турме ў знак пратэсту супраць здзеклівага стаўлення да нацыянальных каштоўнасцяў. 11. Беларускі ваенны лётчык Авенір Кансценчык як асоба, узнагароджаная Георгіеўскім крыжом. 12. Новая нябесная заступніца беларусаў, матушка Валянціна. 18. Што стварыў Сімяон Полацкі для статута Маскоўскай акадэміі? 19. Аўтар кнігі «Ксты». 23. Святы, якога ў народзе завуць Ветрагонам. 24. Беларускі чэмпіён Алімпіяды-1976 у практыкаванні «Бягучы кабан». 27. Міхась Міцкевіч як пісьменнік апавядальнай мастацкай літаратуры. 29. Галоўны атрыбут кампазіцыі «вясельнага поезда» жаніха. 31. Устройства, якое на першай Мінскай тэлефоннай станцыі абслугоўвалі толькі паненкі. 32. Чын Напалеона Орды ў арміі паўстання 1830—1831 гадоў. 33. Від музычнага твора «Сказ пра Мядзведзіху» Анатоля Багатырова. 34. Паўзун, яго чучала ў даўнія часы ўпрыгожвала інтэр'еры беларускіх аптэк. 38. Любіцель. 39. Адметнасць кугакаўкі — птушкі Беларусі 2005 года. 43. Прыправа для ежы. 44. Краіна, дзе беларус Ігнацій Дамейка лічыцца нацыянальным героем.

**nv-online.info**

**Дзедзіч** ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

- **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
- **Распаўсюджваецца бясплатна**
- **Падпісана ў друк** 23.04.2013 года у 18-00
- **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
- **Гарнітура** Helios
- Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.

- **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
- **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
- Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
- Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
- **Наклад** 299 асобнікаў